Pierasyłka apłačana „ryčałtam".

Цана асобнага нумару 15 гр.

№ 17. Вільня, нядзеля, 30 верасьня 1928 г. Год II.

РЭДАКЦЫЯ й АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

# НАРОД

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫI.

ЦАНА АБЕСТАК:
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце. . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

Выходзе 4 разы у месяц.

## Новая пара ў беларускім руху.

Дзеля поўнага ўсьведамленьня, арганізаваньня й адраджэньня беларускага народу трэба, каб беларускі рух абняў усе праявы народнага жыцьця. Пашыраючыся, наш рух памалу і захапляў розныя галіны беларускага жыцьця. Але захапіў яшчэ далёка ня ўсё. Асталася мала зачэпленай галіна мо' найважнейшая, галіна рэлігійна-царкоўнага жыцьця.

Сярод беларускага духавенства каталіцкага беларускі рух даўно знашоў сабе шчырых прыхільнікаў. Шмат памагло гэтаму народнае паходжаньне малодшых беларускіх духоўнікаў каталіцкіх, стычнасьць із сьвядомымі ксяндзамі Ліцьвінамі й Латышамі таксама памагала ўсьведамленьню ксяндзоў-Беларусаў. За якісь час духоўныя й сьвецкія Беларусы-каталікі стварылі сваё беларуска-рэлігійнае жыцьцё, паўстаў асобны беларуска-каталіцкі *культурна-рэлігійны* рух. Руху гэтаму і асабліва выцякаючым зь яго для народу карысьцям шмат перашкаджаюць цяперака варункі, у якіх беларускі народ апынуўся па сусьветнай вайне. Але надта й надта яшчэ шмат асталося беларускаму руху зрабіць у жыцьці касьцельна-каталіцкім. Успомнім, што вельмі рэдка яшчэ дзе ёсьць казань і дадатковая набожнасьць у касьцеле у беларускай мове, што вельмі мала ёсьць касьцельнай літаратуры пабеларуску, што над беларускім каталіцкім народам пануюць і калечаць ягонаю душу біскупы чужнікі—непрыяцелі гэтага народу ды мноства падобных ксяндзоў.

Але калі яшчэ вельмі шмат Беларусам асталося зрабіць у беларускім касьцельна-каталіцкім жыцьцю, дык, мусім прызнацца, што ў жыцьцю царкоўна-праваслаўным дагэтуль блізу што нічагусенькі ня зроблена. Ня будзем разглядаць прычынаў гэтага—іх шмат. Адцемім толькі факт, што калісь свая і вельмі заслужоная для беларускага народу Праваслаўная Царква ў Беларусі сталася ў вапошнія часы панаваньня над намі Маскалёў нам чужой і варожай. Палажэньне гэтае не зьмянілася і пасьля сусьветнай вайны і рэволюцыі на Ўсходзе Эўропы. Адзінкі з паміж праваслаўнага духавенства навет у найгоршаю пару аставаліся, праўда, вернымі свайму народу, але цэлая маса нашага праваслаўнага духавенства дагэтуль была чужой беларускаму народу.

Калі беларускі рух значне пашырыўся, дык ён мусіў раней ці пазьней абняць і беларускае царкоўнае жыцьцё. Нельга сказаць каб першыя спробы гэтага абняцьця былі ўдачныя. Віною гэтаму было тое, што за гэтаю справу браліся людзі або мала зьвязаныя з царкоўным жыцьцём у Беларусі або яшчэ меней ці навет нічагусенькі не зьвязаныя зь беларускім рухам.

Надзеі пакладаныя часьцяй беларускага грамадзянства на сэн. В. Багдановіча не апраўдаліся. І няма дзіва, бо чалавек, што дагэтулешняе сваё жыцьцё аддаў на працу праціленжнаю—русыфікацыйнаю, можа перастаць быць непрыяцелям беларускага руху, але ня можа на старыя гады тварыць беларускі праваслаўна-царкоўны рух. І запраўды, дзейнасьць сэн. В. Багдановіча падабалася часьці праваслаўнага духавенства старога часу, але далей „падабаньня" справа не пайшла, нікога ён не запаліў да барацьбы, а да ахвяраў і пагатове. Ня мог пацягнуць людзёў, ня мог стварыць новае галіны беларускага руху той, хто ў сваім воргане („Праваслаўная Беларусь") ня мог ясна адлучыць Беларусаў ад Маскалёў, а беларускаю праваслаўнаю Царкву проста ўлучаў у Царкву маскоўскаю.

Спраўдзілася тут яшчэ раз евангельская праўда, што ня можна ліці новае віно ў старыя мяхі, бо мяхі прарвуцца і віно пральлецца.

Зусім накшым зьяўляецца беларускі праваслаўна-царкоўны рух найбалей прадстаўлены ад якогась часу айцом Аляксандрам Каўшом. Рух гэты, як можна ўжо відзець цяпер, шчыра-беларускі і шчыра-праваслаўны. Першыя кіраўнікі гэтага руху патрапілі яго ўжо сур'ёзна паставіць у праваслаўным жыцьці Польшчы. Гэтак Мітрапалітальная Рада Праваслаўнай Царквы ў Польшчы папоўнена прадстаўнікамі ад праваслаўных Беларусаў. Ад Беларусаў у Мітр. Раду ўвайшоў ацец Алякс. Коўш, інспэктар Беларускае Гімназыі ў Вільні Р. Астроўскі і вучыцель Беларускае Гімназыі ў Наваградку М. Чатырка. Сьвяшчэньнік А. Коўш і Р. Астроўскі абраны такжа Мітрапалітальнай Радаю ў склад комісыі, што мае апрацаваць статут і праграму Праваслаўнага Сабору ў Польшчы. Сабор мае пачацца 10 студня 1929 г. ў Пачаеўскай Лаўры.

Заданьням гэтага беларускага праваслаўна-царкоўнага руху ёсьць: 1) увядзеньне пропаведзеў у цэрквах у беларускай мове, 2) выкладаньне ў школах закону Божага пабеларуску, 3) узгадаваньне будучых духоўнікаў для беларускага народу ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі ў беларускім нацыянальным духу і ў сувязі з гэтым выкладаньне ў сэмінарыі прадметаў пабеларуску, 4) вядзеньне справаў у консысторыях і перапіскі паміж консысторыямі, благачыннымі й сьвяшчэньнікамі пабеларуску" („Беларуская Зарніца" № 1).

Як мы чулі, ініцыятары царкоўна-праваслаўнага руху паміж Беларусаў маняцца ля кожнага прыходу закладаць беларускія праваслаўныя комітэты. Спадзяемся, што мясцовыя беларускія рабачаі з паміж праваслаўных Беларусаў энэргічна возьмуцца за арганізаваньне гэтых комітэтаў і працы ў іх.

*Максім Прынскі.*

## БЕЛАРУСКІ ГАСПАДАРСКІ ЗЬВЯЗ.

### Т-вы Бел. Гасп. Зьвязу.

У Валожынскім павецэ зарэгістраваны Т-вы Бел. Гасп. Зьвязу ў Гародзьках, Гарадэчне, Запрудзьдзі, Лістападах, Вялікай Дайнаве і Малой Дайнаўцы.

У Маладэчанскім павеце зарэгістраваны т-вы ў в. Парэчча й Белыя.

### Коопэратывы.

Коопэратыў хатняга прамыслу „*Хатні Прамысл*" ужо зарэгістраваны акружном судом у Вільні. Урад коопэратыву цяпер шукае памяшчэньне пад краму.

*У в. Біцянятах*, Крэўскай вол. Ашмянскага пав. закладзены 15 верасьня коопэратыў замляробска-гандлёвы.

### Кнігарні.

*У Лідзе* адчынена й функцыянуе кнігарня Бел. Гаспадарскага Зьвязу, ля Замковай вул. № 8. Гэта найлепшая й найбайчэйшая вул. ў Лідзе.

*У Валожыне* адчынена й прадае Кнігарня Б. Гасп. Зьвязу ля Рынку № 27 у доме Рудзенскага.

*У Ашмяне* Кнігарня Зьвязу пачне прадаваць у борздым часе.

Кнігарні Белар. Гаспадарскага Зьвязу прадаюць усе беларускія кніжкі й газэты, а з польскіх кніжак прадаюць школьныя падручнікі. Апрача таго Кнігарні прадаюць усе школьныя, пісьменныя й канцылярскія прылады.

— *Надгароды за экспонаты Беларускага Зьвязу.* Апрача надгароды грам. Тулейку за вулей (сто зал.), дастана яшчэ звыш дваццацёх надгарод грашыма і пахвальнымі лістамі за розныя тканіны. Надгароды будуць пераслапыя собсьнікам тканін у кастрычніку.

— **Да тых, што пазычылі экспонаты на Выстаўку.** Паўночны кірмаш і земляробская выстаўка ў Вільні скончылася 9 верасьня, але выстаўка краёвая прадоўжана спачатку да 25 верасьня, а потым яшчэ да 1-га кастрычніка. Дзеля гэтага пазычаныя Беларускаму Гасп. Зьвязу экспонаты на выстаўку будуць вернены іхнім собсьнікам па 1-м кастрычніку.

## НАВІНЫ.

— *Гімназыя Франц. Скарыны.* Улада сёлета не дала концэсыі на васьміклясную Беларускаю Гімназыю Франц. Скарыны ў Радашкавічах. Але дадзена концэсыя на тую-ж гімназыю толькі не з васьма, а з шасьцьма клясамі.

— *Расейская гімназыя ў Вялейцы* (павят.) *зачынена.*

— *У амэрыканскім інтэрнаце* для беларускіх гімназыстак і студэнтак у Вільні ёсьць сёлета 24 дзяўчыны, летась было адзінанцаць. Шчырая падзяка тым людзём, што памагаюць нашаму народу ў цяжкім ягоным палажэньню.

— *Студэнцкая вечарына.* У сыботу 22 верасьня студэнты-Беларусы Віленскага ў-ту згулялі ў залі Віленскай Беларускай Гімназыі гучнаю вечарыну. Згулялі п'есу „Сурдут і сярмяга", далей была дэклямацыя й хор. Вечарына прайшла вельмі хораша й удачна. Народу было мноства.

— *Беларускія студэнты прыяжджаюць.* Старыя студэнты Беларусы Віленскага ў-ту і навапаступаючыя на гэты ўнівэрсытэт ужо прыяжджаюць у Вільню. Сёлета сьвядомых студэнтаў-Беларусаў на Віленскім у-це будзе значне балей, як летась.

— *Зьезд Т-ва Беларускае Школы.* Тымчасовая Паўнамочная Комісыя Т-ва Беларускае Школы абвесьціла, што зьезд Т-ва Беларускае Школы будзе 21 кастрычніка.

Як ведама, дзейнасьць Т-ва Б. Школы ў Віленскім вайводзтве ізноў дазволена вайводаю.

— *Надгароды Беларусам на выстаўцы ў Вільні.* Апрача тых Беларусаў, што дасталі надгароды, даўшы свае рэчы для выстаўкі Беларускаму Гаспадарскаму Зьвязу, дастаў яшчэ надгароду 2 тысячы зал. мастак Язэп Драздовіч за модэль беларускай вясковай хаты.

Пахвальны ліст дастаў Язэп Нялепка за вынаход апарату, каторы, будучы прытарнаваны да лодкі ці карабля, дае магчымасьць захаваць аднавагу падчас хваляў.

— *Судовы прысуд.* 26 верасьня Акружны суд у Вільні засудзіў П. Цьветкова, Гелера, Шварца й Додзіна на 10 год цяжкой турмы, Кэнігсбэрга й Краўца на 5 год цяжкой турмы, Гайта на 4 гады, а Бэрга, Сэгаля й Адзінішку апраўдаў.

Падсудных абвінавачавалі ў належнасьці да Комуністычнай Партыі Заходняй Беларусі ды ў працы ў Цэнтральным Комітэце Партыі.

*Прачытаўшы, не зьністажай, але дай прачытаць другому.*

# Із Заходняй Беларусі.

### На роднаю гімназыю.

У часе прыйманьня буджэту валасная рада Вішнеўскай вал. Вялейскага павету пастанавіла асыгнаваць на Беларускаю Гімназыю ў Вільні 50 зал. Хоць гэта й малыя грошы, але пастанова ясна паказуе як спагадна адносяцца прадстаўнікі нашага сялянства да сваіх родных школаў. Усе радныя апрача двух галасавалі за гэтаю пастанову. Слава вам, грамадзяне! Проці гэтае пропозыцыі галасавалі: панскі падлыжнік Сідарэвіч, што хоча быць войтам (цяпер ён заступнікам войта) і адзін панок. Ганьба гэтым непрыяцелем нашага народу!

Няхай і іншыя воласьці праводзяць падобныя пастановы. А сябры павятовага сойміку павінны дагледзіць, каб гэтая і да яе падобныя пастановы былі пацьверджаныя павятовым соймікам.

### За грошы звальнялі ад службы ў войску.

Надовечы паліцыя разам з вайсковымі ўладамі выкрыла ў Баранавічах шайку, катора за лапаны (хабары) звальняла навабранцаў. Сержант Крышоўскі, кіраўнік канцылярыі P. K. U. ў Баранавічах за хабары запісаваў навабранцаў на сьпісак звышлічбовы і даваў ім лісты звальненьня.

На чале шайкі стаяў Шулякоўскі, маючы собскіх агентаў, каторых заданьням было знаходжаньне адпаведных кандыдатаў.

Шайка брала залежна ад дастатнасьці навабранца ад 40 да 150 даляроў. Паміж іншым гэткім спосабам быў звольнены Ізраель Гольбін, ад каторага ўзялі 75 дал. гатоўкай і вэксэль на 75 дал. Арыштаваны цэлы сьцяг асобаў, паміж іншым якісь Заблоцкі, каторага звольнілі за каўцу пяць тысячаў даляроў.

### Прысуд у Глыбокім.

Надовечы акружны віленскі суд на выездным паседжаньню ў Глыбокім судзіў абвіненых у належнасьці да комуністычнай партыі Зах. Беларусі. Суд засудзіў Сяняўскага Пётру на 6 год цяжкой турмы, Багуцкага й Саўку па 4 гады цяжкой турмы і Дарашкевіча Антона на адзін год цяжкой турмы.

Апраўданы: Дзьмітра Сьвірка, Дзімэнштэйн, Гейман, Гофман, Гаўрыльчык.

### Неўраджай у Віленшчыне.

З вайводзкага ўраду ў Вільні наказуюць, што сёлета ураджай у Віленшчыне на 30 процэнтаў меншы за звычайны. Ярына й бульба найгоршая ў паветах паўночных: Браслаўскім, Дзісенскім, Пастаўскім і Сьвянцянскім. Тут ёсьць небясьпечнасьць, што ярына з прычыны позьняй сяўбы не насьпее, а бульба ў шмат мясцох згніе. Ураджай сена ў Віленшчыне не перавышае паловы нормальнага.

### Страшная навальніца ў Вялейскім пав.

23 верасьня пераз Вялейскі павет ля радавай граніцы прайшла страшная навальніца ў кірунку на Ракава, Сьвірынава, Стоўпцы. Ад пяруноў згарэла 18 гаспадарак. Вецер быў такі вялікі, што зрываў стрэхі.

### Экспозытура Лідзкага старасства.

На аснове распараджэньня Міністра Нутраных Справаў утворана ў Шчучыне экспозытура Лідзкага старасства. Да экспозытуры належаць воласьці: Сабакінская, Заблоцкая, Васіліская, Нова-Дворская, Астрынская, Шчучынская, Лябёдзкая, Жалудзкая, Ражанская й Асташынская.

Компэтэнцыя экспозытуры абыймае справы адміністрацыйныя, бясьпечнасьці (паліцыя), санітарныя, вэтэрынарныя і абароны лясоў.

## ЛІСТЫ.

### Разбой.

М-ка *Забрэзьзе, Валожынскага пав.* 15 жніўня пастарому стылю ў м. Забрэзьзі было вялікае праваслаўнае сьвята. Гэтага-ж дня жыхары забрэскія Янка Скадорва, Браніслаў Ралавец і Баляслаў Ралавец („strzelec“)—напалі ў Забрэзьзі на жыхараў в. Вялікае Запрудзьдзе, Забрэскай вол.—Рыгора Пахамовіча і Андрэя Барэйку—і пачалі іх біць палкамі на вуліцы. Потым, як пацярпелыя сталі ўцікаць, „стралец“ Баляслаў Ралавец парэзаў бок нажом Андрэю Барэйку. Далей гэтыя разбойнікі загналі Рыгора Пахамовіча на панадворак мнішкі Радавановічанкі, каб меней людзі відзелі, і білі паленамі; як стаў ён прасіцца ў гэных разбойнікаў, дык яны сталі біць яго па галаве і пабілі яму галаву, што ляжаў, як няжывы.

Рыгора Пахамовіча завезьлі родныя ў бальніцу ў Валожыне, але, ня маючы з чаго балей плаціць у бальніцы, просьле трох тыдней прывязьлі яго дамоў; ляжыць ён цяпер дома бяз памяці й прытомнасьці. Андрэй Барэйка пралежыў тыдзень у бальніцы, цяпер ён дома але ня можа нічога рабіць.

А гэных разбойнікаў быццам забралі, а потым пусьцілі—Янку Скадорву пад нагляд паліцыі, Баляслава Ралаўца пад залог 300 зал., а Браніслава Ралаўца зусім ня бралі, бо іх падзьдзержавае спалячаная местачкавая інтэліґенцыя, бо яны лічаць сябе Палякамі і належаць да польскіх арганізацыеў.

*Брат пацярпелага.*

# Што дзеіцца у сьвеце?

### Умова паміж Італіяй і Грэцыяй.

Італія ўсё імкнецца да пашырэньня сваіх уплываў на Балканах. З гэтай мэтай нядаўна зрабіла ўмову ,,прыязьні“ з Грэцыяй.

### Англія згаджаецца на пашырэньне самастойнасьці доменіеў.

У Канаду прыехаў з Англіі сэр Вільем Клярк, каторы будзе брытанскім вайсковым комісарам у Канадзе. Гэтае становішча раўназначнае із становішчам прадстаўніка дыплёматычнага. Дагэтуль контакт паміж абодвымі ўрадамі быў вылучна пры пасярэдніцтве генэральнага губэрнатара.

### Пажар тэатру ў Мадрыце.

23-га верасьня ў Мадрыце (сталіцы Гішпаніі) загарэўся ў часе прадстаўленьня вялізарны тэатр. Тэатр меў 6 паверхаў. Як пачаўся пажар, у тэатры было 3 тыс. асобы. Пры ўцеках людзёў з тэатру ў часе пажару забіта каля 200 чал. і звыш 400 ранена. Аднаго чалавека ўмерла ў часе пажару жонка і трое дзяцей.

### Пад націскам Амэрыкі Францыя згаджаецца зьмяніць морскаю ўмову з Англіяй.

У сувязі з амэрыканскім адказам на наказ (паведамленьне) аб англіцка-францускай умове морскай, француская ўрадовая газэта „Matin“ піша, што калі амэрыканская опозыцыя сьціравана проці формальнага боку прынцыпаў абмежаньня будовы флоту, дык

j=й (моj=мой, jix=йіх або іх).

ЯКУБ КОЛАС (К. Міцкевіч).

## Новая зямля. 17)

### ПОЭМА.

(Глянь № 16 „Народу“).

XX.

### КОЛЯДЫ.

Прышлі Піліпаўкі, Мікола,
Дзянькі праходзяць больш вясёла,
Бо хоць зіма і крэпіць дужа,
І хоць бушуе яе сьцюжа,
Бы тое дзікае jігрышча,
І вецер жудасна засьвішча,
Як на дудзе ці на клярнэце
На неjкім злыдневым банкеце,—
Ды ўсё ж сьвятлеюць даляў вочкі
І jіх бялюткія сарочкі.
Ёсьць хараство і ў гэтых зімах
І ў мёртва-белых тых кілімах,
Што віснуць зьзяюць хрусталямі
Над занямелымі лясамі,
Калі ў вагністым мароз троне
Ў крывава-багравај заслоне
Над сьветам рукі ціха ўздыме
І зачаруе, ўсё абніме;
А як усходзіцца завея,
І вецер зь сьнегам задурэе
Ды затрасецца віхрам белым!..
Эх, колькі волі ў руху сьмелым!
— Гуляj, зіма, твая часіна!
Ды скора будзе палавіна,
А там цяплом табе павее,
А ўдзень і сонейка прыгрэе!—
Паддасьць, бывала, дзядзька руху,
Пачуўшы холад-завіруху.
Ад гэтых слоў лягчэj на сэрцы,
Бо ўсё-ж маркотны вы, каберцы
Зімы халоднаj і мярцьвячаj,
І ласкі хочацца гарачаj,
Вясны душа твая жадае,
І ў сэрцы радасьць расьцьвітае
Ад аднае ўжо толькі думкі,
Што гэта зімка зьбярэ клумкі
І поjдзе-зьнікне на паўгода,
І jзноў ажывіцца прырода.
Прыелась хлопцам і вучэба:
Цяпер Калядак чакаць трэба,
І думка jіх ня тым занята,
Ўсё болеj ходзіць калі сьвята.
І міла гэта jіх чаканьне!
Адзнакі блізкіх зімніх сьвятак—
Гарыць салома каля хатак.
Пажар вясёлы ў час сьвітаньня!
—А што там сьвеціцца, нябожа?
Няўжо гарыць хто, ня даj Божа?—
Не, не пажар: то—сьцяг калядны,—
Япрук там смаліцца дзесь ладны.
Своj крок апошні замыкае:
Япручча доля ўжо такая.
І кожны дворык, кожна хата,
Хоць і жыве ня так багата,
Але сьвятых Каляд ў адзнаку
Заколе хоць-бы падсьвінака
І дворык своj ці прыгумень
Асьвеціць раніцаю, ўдзень,
Бо хто-ж, скажэце, хто ня ласы
На тое салца і кіўбасы?
Другі Каляд не дачакае,
Цішком сьвяжынкі паспытае,
А ўжо на сьвята—што казаці?—
Паходзіць так каля сьвінчаці,
Што ўжо на ночку разоў дзесяць
Табе жывот закуралесіць
І гэта, братцы, не загана!
Даўно, ня знаю, кім казана:
„Калі заколеш япрука ты,
Ды не паб гаеш за хаты,
То гэта—гонар невялікі,
Гэта—вясельле бяз музыкі,
Як кажа мудрасьць чалавечча“.
Але зірнём мы на Парэчча,
Чым там у лесе жыве хата,
Як там рыхтуюцца да сьвята
І як Калядкі сустракаюць.
Навуку хлопцы прыпыняюць,
У jіх—разьвязаныя рукі:
Да „Правадоў“ няма навукі.
Дарэктар з радасьці сьпявае,
Дадому едзе, спачывае.
І летні збор[94]) цяжэрнаj працы,
Хлябоў высокі торп-палацы,
Праслухаў цэпаў голас ёмкі,
І дзе быў торп—там стог саломкі,
А цэп замоўк, хоць не навекі,
І зерне ссыпалі ў сусекі.
Антось таксама цяпер вольны,
Яму—бы празьнічак*) прастольны:
Сюд тут, глядзіш—ён ухадзіўся,
Ці зьеў ці не—на луг пашыўся;
Цягнуў луг дзядзьку, jім валодаў.
Сябра маjстэрства і паходаў,
Сякерку, востраю падругу,
Засуне спрытна пад папругу.
І Костусь зь дзядзькам, як вядома;
Хіба, ты ўседзіш цяпер дома?
А зь дзядзькам поjдзеш—так цікава
Яны jдуць бойка і рухава,
Бо зімні холад падганяе.
Любота, братцы! сьнег лятае
Ды так спакоjна, так ціхутка!
Куды ні глянь—усё бялютка.
А тыя лёгкія пушынкі,
Здальнеjшых ручак кружавінкі,
Сухіх чаротаў чуць крануцца,
То так-жа люба засьмяюцца,
То ціха-ціха загамоняць,
То штось шушукнуць, то зазвоняць.
А там, між лесам і табою,
Сам Бог паводзіць барадою:
Трасецца сетачка сьняжынак,
Як сьмех прыгожанкіх дзяўчынак,
Што звоніць песьняj маладою.
Антось на рэчцы прыпыніўся:
Тут першы загарад таjіўся
Пад гэтым сьнегам і пад лёдам
З адным-аднюткім толькі ходам,
І тоj бучом быў перахвачан—
Яшчэ увосень час тут страчан.
Палонка лёдам моцна скута,
Ды працы тут адна мінута.
Палонку дзядзька прасякае,
А Костусь, радасны, чакае
І зорыць пільна ён вачыма,
Калі тоj бучык дзядзька ўзьніме.
А дзядзька—о, ён акуратны!
Работнік дзядзька наш выдатны:
У ўсім парадак і лад любіць
І часу дарма ён ня губіць!
Прасек палонку, крыгу вынуў,
Тады на бучык вока кінуў,
Бярэ за палку, падымае
І буч на бераг выкідае.
І дзядзькаў твар крыху сьвятлее—
Была слабая тут надзея;
А вось, глядзі, там штось шалпоча,—
Відаць, jіх доля ня сіроча!
І буч кулём угору ставяць
І часу доўга тут ня бавяць.
Разьвязан куль. Тут гоман, сьмех,
І рыбу вытрасьлі на сьнег.
Акунчык спрытна страпянуўся,
Мянёк завала ўзварухнуўся,
Яшчэ мянёк ды пара плотак,—
Ну, вось табе і заработак!
А там яшчэ ёсьць загародкі. .
Ня дармы, не jіх пераходкі!
Jідуць дадому, разважаюць,
Чаго на сьвяты накупляюць—
Антось часамі, як дзіця.

*) Маск., пакрыв.—сьвятца.

Францыя гатова будзе зьмяніць і навет пакінуць гэныя прынцыпы. Газэта запэўняе, што якія-колечы жаданьні з боку Амэрыкі Францыя гатова будзе вельмі прыязна прыняць.

### Скасаваньне кары сьмерці ў Мэклембургу.

Мэклембурскі ўрад пастанавіў скасаваць кару сьмерці на прасторы зьвязовага гаспадарства Мэклембург-Швэрын. Гаспадарства гэтае ўходзе ў склад Нямеччыны.

Пастанову сваю мэклембурскі ўрад маніцца ўжыцьцёвіць незацьвярджаньням прысудаў сьмерці, выданых мэклембурскімі судамі.

## „Беларуская Зарніца“*).

Выйшаў першы й другі нумар праваслаўнага двутыднявіка „Беларуская Зарніца“, выдаванага а. А. Каўшом і іншымі беларускімі дзячамі праваслаўнымі. Зьмест абодвых нумароў абдуманы й глыбокі як з боку нацыянальнага, так і царкоўна-праваслаўнага. Пералічым асобныя артыкулы. „Ад Рэдакцыі“—высьвяецца патрэба беларускай рэлігійна-царкоўнай працы паміж праваслаўнымі Беларусамі. Рэдакцыя справядліва адцемлюе, што „асобныя адзінкі, арганізацыі й друк у сучасную пару болі цікавяцца пытаньнямі рэлігіі, болі прыдаюць ім значэньня, чым калі-небудзь у іншыя часы“.

*„Мы маем на мэце—заяўляе рэдакцыя—даць магчымасьць сказаць праўдзівае слова аб царкоўных патрэбах і іх здавальненьні каранному мясцоваму беларускаму народу, бясшумна ў вясковай глушы захоўваючаму родную праваслаўную веру і тым мучаньнікам духаўнікам, што мучаючыся горам і бедамі сваіх прыхаджан, на сабе перацярпелі ўвесь цяжар сучаснага царкоўнага быту й бяспраўя*“.

Далейшы зьмест паказуе, што рэдакцыя запраўды спаўняе гэтае сваё абяцаньне.

„Беларусізацыя праваслаўнай Царквы“, тут паказаная патрэба й заданьні беларусізацыі. „Царства Божае і царства Кесарава“—пераклад працы ведамага праваслаўнага філёзофа, Бярдзяева, Беларуса (з усходняй Смаленшчыны), але абруселага й пішучага парасейску. „Пастановы Сьвяшчэннага Сыноду Праваслаўнай Мітраполіі ў Польшчы“—аб ужываньню беларускай і украінскай мовы ў цэрквах. „Думкі проці небясьпечнага бязьвер'я„. „Узаемаадносіны духавенства й прыхаджан“ А. К., „Мітрапалітальная Рада“. „Пільная справа“ Чарнеўскага. Паднята ў гэтай стацьці вельмі важнае пытаньне. Аказуецца, што ў накіненай беларускаму насяленьню польскай школе дзеці праваслаўных Беларусаў навет ня ўмеюць рэлігійных кніжак чытаць пабеларуску або пацаркоўна-славянску, бо ня знаюць кірыліцы. Адгэтуль з боку рэлігійнага вынікае неабходнасьць навучыць дзеці кірыліцы, ведама на беларускім лемантары й чытанках. „Каму гэта карысна?“ аб несправядлівых адносінах да праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Тутжа прыведзены гістарычны ліст (з 1622 г.) „літоўскага“ (=беларускага) канцлера Лева Сапегі проці перасьледаваньня праваслаўных у Вялікім Князьцьве Літоўскім ужо злучаным Люблінскай вуніяй з Польшчай. Пры перакладзе гэтага цікавага ліста з даўнейшай на сучасную беларускую мову зроблена ў ім адна вялікая абмыла. Леў Сапега піша „уціскаецё рускі народ“. „Рускі“ ў даўнейшай беларускай мове азначала „беларускі“, а яшчэ часьцей „беларуска-праваслаўны“**), а Маскалёў так і называлі Маскалямі, а іхнюю мову і іншае маскоўскай; тымчасам перакладчык зразумеў слова „рускі“ ў цяперашнім значэньню маскоўскім і пераклаў яго словам „расейскі“. „Націск расейскага дабрадзейнага т-ва на Духаў манастыр“. „Царква й Дзяржава“ (№ 2) аб адносінах польскага гаспадарства да праваслаўнай Царквы. „Архіпастырская адозва“—аб ужываньню ўкраінскай мовы ў цэрквах на ўкраінскіх землях навет у літургічных кнігах. „Рэлігійнае ўзгадаваньне беларускай вучнёўскай моладзі“, Аднаго з бацькоў; „Праўда на сьвет!“ М. Чарнеўскага—аб несправядлівасьцях, што дзеюцца ў школах праваслаўным законавучыцелям. „Прысяга на беларускай мове“, „Пятніцкая царква“ Сака—аб патрэбе яе рэмонту і зрабеньне зь яе праваслаўнага беларускага прыходу. Гаспадарскія парады, хроніка. Наагул часапіс умела закранае балючыя пытаньні ў жыцьці праваслаўных Беларусаў і дзеля таго бяссумлеву знайдзе водгук у шырокіх беларуска-праваслаўных масах.

На адну рэч ад'емнага характару ў „Белар. Зарніцы“ трэба зьвярнуць увагу. Часапіс ёсьць ворганам „праваслаўных Беларусаў“, значыць грамадзянства духоўнага й сьвецкага, а ня духоўнай улады, а дзеля таго мала дамагацца беларускай мовы ў цэрквах там, „дзе пажадае гэтага насяленьня“, бо калі-б гэтага жаданьня дзе й ня было, дык яго на гэтаю справядлівую патрэбу трэба стварыць.

Яшчэ слаўцо аб мове. Беларуская мова „Белар. Зарніцы“ слабаватая; лепшая яшчэ ў N 1, а ў N 2 горшая. Трэба, каб рэдакцыя зьвярнула ўвагу на мову і прытарнавала да сябе словы з архіпастырскай адозвы Найсьв. Мітрапаліта Дзяніса „неабходна, каб духавенства абавязкава бралася да працы над удасканаленьням як зьместу, так і *самой мовы* казаньняў“.

*Максім Прынскі.*

*) „Беларуская Зарніца“, царкоўна-народны двутыднёвік. Орган праваслаўных Беларусаў. Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. Коўш. Падпісная цана: за 1 мес.—80 гр., за 3 мес.—2 зал. 40 гр., да канца году 3 зал. Адрэс рэдакцыі: Вільня, Летняя вул. № 7.

**) Побач із назовам „Русін“, „рускі“ дзеля азначэньня Беларусаў часьцей ужывалася слова „Ліцьвін“, „літоўскі“, а яшчэ раней „Крывіч“, „крывіцкі“.

## Дзівосы й сьмяхоты.

### „Сял. Ніва“ сталася ўрадовым ворганам.

„Сялянская Ніва“ ізноў пачала выходзіць. Няўжо-ж гэта будуць якія выбары? На першы пагляд нічога ў „Сял. Ніве“ не зьмянілася: тая-ж дзікая злосьць і нягодная мана-лаянка бяз жаднай увагі на праўду, тое-ж пастускае балбатаньне. Але мыліўся-б той, хто-бы не пабачыў вялікай зьмены ў „Сял. Ніве“; нягоднай то яна асталася, але „Сялянская Ніва“ сталася ворганам урадовым. Аб гэтым ня можа быць жаднага сумлеву, бо вось у N 35 „С.Н.“ чытаем: „*Урад не сьпяшаецца зваць паслоў да працы, бо й сам спраўляецца правіць дзяржаваю і выдаваць патрэбныя законы*“. Калі так добра ўрад спраўляецца, дык трэба спадзявацца, што неўзабаве пас. Ярэміч і сэн. Рагуля зракуцца сваіх мандатаў.

### „Дэклярацыя“ аб тым, што няма дэклярацыі.

Ярэміч і Рагуля езьдзяць у Жэнэву на конгрэс нацыянальных меншасьцеў хіба дзеля таго, каб паглядзець на гэтае швайцарскае места (у 1926 г. Ярэміч „па дарозе“ з Жэнэвы ў Вільню, заяжджаўся паглядзець і на Парыж), бо рабіць яны там нічога ня могуць. Летась Рагуля, паехаўшы на конгрэс нац. меншасьцеў, сядзеў у Жэнэве ў готэлі, непаказуючыся на конгрэс. Калі прыяцелі Беларусаў знайшлі яго неяк у готэлі і цягнулі на конгрэс, ён адмаўляючы-

Тымчасам заўтра і Куцьця.
Міхал—ужо нейк ујшло ў моду—
Ў Нясьвіж прад сьвятамі што-году
Вазіў для замкавых паноў
Грыбы і рыбу і зајцоў.
Куцьця. Марозна. Хмурнавата.
Сьняжок падкідвае заўзята;
Сьнег на Куцьцю—грыбы на лета,
Такая матчына прымета.
А сьцежкі чорны—ягад многа;
Ну і за гэта хвала Бога.
Абегаў Ўладзя раўчавіну
І клін і пасечку, лагчыну,
Па жменцы ў сьнег аўсу стаўляе—
Зајцоў ён гэтым прывабляе,
Каб праз вакенечка з каморы,
Калі прынадзіцца каторы
У ночку цёмнаю хадзіць,
Навесьці стрэльбу і забіць,
Бо тут зајцоў было даволі
І дроў на сьвята накалолі*),
Трасянкі загадзя натрэсьлі,
Сянца пахучага прынесьлі:
Куцьці гаршчок ужо ў калена
Стаяў на лаве, чакаў сена,
І вось цяпер гаршчок з куцьцёю
Як цар даўнејшаю парою,
Ў пачэсны кут, на свој прастол,
Стаўляўся з гонарам за стол
На гэта сена пад багамі,
Ўладар над хлебамі ј блінамі,
Бо ён у гэты дзень—пярсона!
Яго вянчаў абрус-карона:
Гаршчок агорнуты пашанај,
Хоць ён фаміліі глінянај.
Якія-ж матчыны намеры
На-конт куцьці, на конт вячэры?
Ох гэта дзецям знаць цікава,
Калі якая будзе страва,
Ў якім ліку, ў якім парадку?
Што на канцы і што ў пачатку?
А ў маткі ўсё абмеркавана
І ўсё прадумана ад рана.
Там, на гары, пад шчытам дзе-та,
Быў мак павешан яшчэ зь лета—
Цяпер у цёрле ён пацёрты.
У патајным куце каморы,
Як сьмерць Кашчэя, пад запоры
Мядок быў уітра дзесь запёрты—
Цяпер яго насталі часы,
Бо ён патрэбен для закрасы,
І што кісель тој бяз сыты
У вечарок гэты сьвяты?
Маўчком*) Антось часінај шэрај
У ельнячок шмыгнуў зь сякерај:
Ці-ж ён зьвярэдзіцца, ізгрэшыць,
Калі малых дзяцеј пацешыць
І јіх ялінкај пад Куцьцю
Хоць раз забавіць у жыцьцю,
Калі забавіць толькі зможа?
Ялінка ў хаце так прыгожа!
І колькі радасьці і ўцехі!
На ёј валоскія арэхі,
А з пазалочанај паперкі
Глядзіш панадныя цукеркі;
І больш на ёј няма нічога,
Ды хіба ж дзецям трэба многа?
Даволі зь јіх і тэј прынады—
Яны давольны, яны рады
У хаце добры лад і згода,
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасьць вечара сьвятога—
Ня ўчуеш слова ты благога.
І ўсе прыбраліс і памыліс,
Міхал з Антосям падгаліліс
І парашчэсвалі чупрыны.
—Ну, засьцілајце стол, мужчыны!
І стол тој гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падыјмаюць
На стол растрэсваюць мурог—
На сене колісь быў Сын-Бог —
І роўным пластам расьцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць.
За стол садзяцца ўсе ў парадку
І прад сабој кладуць аладку,
Відэлцы, лыжкі разьбіраюць.
І стравы першае чакаюць
—Ты, брат, глядзі не ашукајся:
Ня надта зразу накідајся,
Бо потым шчыра пашкадуеш,
Калі жывот свој напіцуеш:
Чым дальш—смачнејшыя патравы,
І многа јіх, усе цікавы;
Я знаю хітрасьць гэту ўсю,—
Алесь гаворыць Кастусю.
Міхал бутэльку адтыкае,
Бо ўжо закуска тут чакае:
Стаяць, як горкі, скавародкі,
Тут акунькі, мянькі і плоткі,
Ды так падсмажаны, што люба—
Сама да јіх імкнецца губа.
Гарэлка, радасьць-весялуха,
Прыемна булькае для вуха
І гэтак вочы прыцягае,
Ну, як каханка маладая!
—Ну, што-ж Антось, здароў будзь браце!
Няхај дае Бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае,
Каб у хляве ды ўсё пладзілась,
Каб жыта ў полі каласілась,
Няхај раяцца добра пчолы,
І самі будзем мы вясёлы;
За год дај Божа дачакаць
Здаровым новы год спаткаць.
—Дај Божа!—дзядзька адазваўся
П'ючы цяпер да гаспадыні—
Падатак кожнај дај часіне,
На ўсё гатовы ў кожным часе.—
І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя зь лета.
Але ня ўсё яшчэ і гэта:
Закрашан[95]) квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы—
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуј—цішком скажу між намі—
Каб і язык ня ўцёк часамі.
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы-праснакі
З пшанічнај добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў јім, ну, як калодкі—
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш—абліжыся
За прасначкамі јшлі кампоты,
Кісель зь мядоваю сытою;
Вячэру скончылі куцьцёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы падатак тој аддаць,
Стары звычај ушанаваць.
І посьле гэтакај вячэры
Жывот выпучваўся бязьмеры,
А з-за стала як уставалі,
То навет трохі і стагналі.
На першы дзень сьвятых Каляд—
Такі ўжо быў стары парадак —
Зьбіралі сена із стала,
Кармілі јім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, у драбнюткім сене—
Здавён-даўна вялося ј гэта—
Уважна зернятак шукалі
І па тых зернятках гадалі,
Які зародзіць хлеб на лета?

*) Маск., пакрывіцку—насеклі.

*) Маск., пакр.—моўчкам, моўчкі.

ся, адказаў: „Ідзеце вы рабеце, а я тут пачакаю“. Чаму тады не пачакаць у Вільні або ў Любчы?

Сёлета Ярэміч, *паехаўшы ў Жэнэву на конгрэс, ня прыймаў у ім учасьця.* Гэта ён і заявіў на конгрэсе словамі: „не магу актыўна браць удзелу ў працах конгрэсу“. Далей ён у „дэкларацыі“(!) заявіў, што дэкларацыі не падае, але затрымлюе права паданьня дэкларацыі на наступным конгрэсе. Каб ня прыймаць учасьця ў конгрэсе, а толькі гэта сказаць, дык зусім ня трэба ехаць у Жэнэву—можна пераслаць па пошце або тэлеграмай.

### Усе — „зраднікі“.

Дварчанінаўская „Рэха Працы“ ўсіх Беларусаў не інтэрнацыяналістых называе „зраднікамі“. Але не агледзіліся панове Дварчаніны, як самі лучылі ў зраднікі і аб гэтым самі наказалі ў сваёй газэце. „Рэха Працы“ ў N 7 піша, што менская „Зьвезда“ гэтак адзываецца аб Галоўнай Управе Т-ва Беларускае Школы: „частка кіраўнікоў Т-ва Белар. Школы замест зьвярнуцца да шырокіх масаў... знайшла больш патрэбным гнуць свой карк перад уладаю“. І далей „цяпер гэтыя зраднікі будуць уводзіць „санацыю“... будуць разьбіваць актыўнейшыя кадры арганізацыі“.

Ясна, што тут гутарка аб паданьню ў дымісыю сяброў Галоўнай Управы. Выглядае, што быццам у дымісыю падалася адна „зрадніцкая“ частка Ўправы, а тымчасам у дымісыю выйшла ўся Галоўная Ўправы разам із Дварчанінам і Валынцам і ўсе яны такім парадкам апынуліся ў „зрадніках“. Дварчанін, перадруковуючы гэтаю зацемку „Зьвезды“, не зазначыў, што і ён падаўся ў дымісыю. „Забыўся“ гэтага зазначыць Дварч., думаючы, што пры цяперашняй „полюрызацыі“ (кажам ягонымі словамі) адзін полюс ня ведае, што дзеіцца на полюсе другім. Ну й „Пілатушка“!

### Як арганістыя з ксёнжулікам нягодна маняць у „Biel. Krynicy“.

У N 44 „Biel. Krynicy“ ў зацемцы „Водгукі краёвай выстаўкі“ паміж іншым чытаем: „на ўсякі выпадак Палякі дапусьцілі да выстаўкі аднаго з полёнафілаў п. Янку Станкевіча, як свайго чалавека. „Але і яго памясьцілі ў цесных двух-трох катушкох, хаваючы такім чынам ад людзкога вока і тую жменю, якую п. Янка Станкевіч хацеў паказаць“.

Першае, Я. Станкевіч ня ёсьць і ніколі ня быў полёнофілам, а заўсёды быў і ёсьць шчырым Беларусам. Мы даўно ўжо дамагаемся, каб „В. Кг.“ і іншыя далі довады або факты „полёнофілства“ Я. Станкевіча і нашыя непасьцівыя праціўнікі жадных довадаў і фактаў не падаюць, але лаюцца дзеля дурной партыйнай конкурэнцыі. Чаму гэта Я. Станкевіч, каторы мае за сабой 20 год працы на беларускай ніве, „полёнофіл“, а такі П. Каруза, што яшчэ ў 1926 г. лічыў сябе Паляком, быў інструктарам асадніцкай „Młodzieży Wiejskiej“ і толькі пасьле абраньня яго ў тым-жа годзе ў старшыні хадэцыі стаў „сьвядомым“ Беларусам ёсьць Беларусам „пэўным“?

Другое, да ж а д н а й беларускай арганізацыі Палякі, арганізатары выстаўкі, не зьвярнуліся з пропозыцыяй выступіць на выстаўцы; гэта ведама, блага. Але Беларускі Гаспадарскі Зьвяз і Беларускае Нав. Т-ва разам з Т-вам Беларускае Школы самі зьвярнуліся да выставачнага комітэту з пропозыцыяй выступіць на выстаўцы. І пастановаю Выст. Комітэту ў с е былі на выстаўку афіцыяльна дапушчаны, а не адзін Бел. Гасп. Зьвяз. Пры гэтым выст. комітэт дзеля выстаўкі Нав. і Школьнага Т-ва — ўлучыў у прастор выстаўкі добрае вялікае памяшчэньне Т-ва Б. Школы, а Б. Гасп. Зьвязу памяшчэньне ў сваім павільёне выст. комітэт даць адмовіўся, быццам з прычыны позьняга часу і толькі пасьлей удалося дастаць невялічкія тры пакоі. Беларускі Інстытут Гасп. й Культуры з пропозыцыяй выступаць на выстаўцы да нікога не зварочаваўся. Навуковае Т-ва і Т-ва Б. Школы пасьлей ад учасьця ў выстаўцы адмовіліся і гэтым вельмі пашкодзілі беларускай справе, але што-ж, калі панове Дварчаніны лічаць роскашай займацца культурнай працаю.

А што датыча „жмені рэчаў“, дых выдавец „В. Кг.“, А. Стэповіч, як сам аглядаў выстаўку, начай адзываўся аб гэтай „жмені“, ён тады казаў „якое багацьце! якое хараство! чаму вы маўчыцё? чаму ня пішаце?“. А сам свайму рэдактару-арганістаму дазваляе пісаць на гэнае багацьце й хараство ўсякаю брыду.

Брыдка вам так рабіць, панове арганістыя, а яшчэ брыдчэй вашаму апякуну, айцу ксёнжуліку.

### „Kurjer Wileński“ і праўда.

Каму ня ведама, што польская ўрадовая статыстыка з 1921 г. ў адносінах да Зах. Беларусі не адпавядае навет у палове праўдзе, а тымчасам „Kur. Wil.“ узяў на Краёвай Выстаўцы дадзеныя з гэнай статыстыкі і падаў іх як штось праўдзівае. Паводле гэнай, зусім не адпавядаючай праўдзе, статыстыкі, у Віленскім вайводзтве Палякоў балей, як Беларусаў.

Мы ведаем, што ўсяму беларускаму насяленьню ў Зах. Беларусі сілком накінена польская школа. А тымчасам у ваднэй зь перадавіцаў „Kur. Wil.“ дамагаецца яшчэ пашырэньня польскіх школаў у нас.

Гэта піша газэта, каторая ў перадвыбарным часе „дамагалася“ аўтономіі для Зах. Беларусі. Цяпер ня толькі няма гутаркі аб аўтономіі, але ёсьць дамаганьне полёнізацыі. Аб аўтономіі забыўся як „Kur. Wil.“, так і ягоны памачнік „Беларускі Дзень“.

### Шукаюць способаў як лягчэй спалячыць.

Польскі рэакцыянэр, Уладыслаў Студніцкі падаў у N 222 „Słowa“ свой проект падзелу Польшчы на асобныя „краі“. Ул. Студ. прапануе ўтварыць гэныя краі так, каб у жадным зь іх нацыянальныя меншасьці не перавышалі 40 проц. усяго насяленьня краю. Дзеля таго ад Заходняй Беларусі мела-б быць адарвана Палесьсе і злучана з даўнейшай губэрняй Седлецкай, а да вайводзтваў Наваградзкага й Віленскага прылучана ўсё вайводзтва Беластоцкае (а ня толькі беларуская часьць яго). Гэтак-жа штучна былі-б скроены і іншыя „краі“.

На што людзі псуюць паперу і каго яны хочуць ашукаць? Калі ў павялічэньню лічбы „краёў“ мае быць паляпшэньне, дык мы гэтага шчасьця маем даволі, цяпер кожнае вайводзтва (прынамся нашае „крэсавае“) ёсьць асобны край з аўтаноміяй для п. вайводы.

*Кр. Асва.*

## Да Беларусаў-каморнікаў.

Вёска Гародзькі Валожынскага пав. выдала ў варэнду на 36 год гэктар сябраной зямлі і дастала за гэта наперад 200 даляроў.

Гэтыя грошы Гародзькаўцы пастанавілі не дзяліць, а ўжыць на агульнаю карысьць. Пры гэтым адны пропануюць заплаціць іх каморніку за падзел іхняй зямлі так, каб, ня выходзячы на хутары, кожны гаспадар меў сваю зямлю ў ваднэй вялікай паласе, а ня ў многіх вузенкіх шнюрках. Другія прапануюць аддаць гэтыя грошы ў закладзены ў Гародзьках свой беларускі крэдытны коопэратыў, так што кожны гаспадар меў-бы адзін ці некалькі дадатковых паёў і была-б паложана добрая грашавая аснова пад сябраную (коопэратыўную) касу (крэдытны коопэратыў).

Гэтыя два зычэньні можна добра пагадзіць, калі-б знайшоўся каморнік-Беларус, каторы-бы згадзіўся дарма памерыць і падзяліць гэткім способам Гарадзькаўскаю зямлю; тады 200 дал. пайшлі-б у крэдытны коопэратыў, паміж іншым і на пай самога каморніка, каторы зрабіў-бы агульнае дабро і пакінуў-бы па сабе добраю памятку.

Гародзькаўцы зварочуюцца з заклікам да каморнікаў-Беларусаў, каб яны адазваліся.

Мы пэўны, што паміж каморнікамі Беларусамі ёсьць не адзін ідэйны, спагадлівы свайму народу чалавек і яны на гэты заклік адазвуцца. Зварочавацца просяць у Гародзькі да Міхала Станкевіча (адрэс: станцыя й вёска Гародзькі, Валожынскага пав.) або пасярэдніцтвам Рэдакцыі „Народ“ ці Беларускага Гаспадарскага Зьвязу (Вільня, Астрабрамская 15).

## АБ УСІМ ПАКРЫСЕ.

— **Адважныя лётальнікі.** Нядаўна ля Коўна загарэўся аэроплян на вышыні 150 мэтраў. Абодва лётальнікі кпт. Пясэцкі і пар. Шымкус вышлі зь сярэдзіны аэропляну і сталі на ягоных крылох, удзержуючы аэроплян у палажэньню горызонтальным; ад гэтага паданьня аэропляну зьменшылася і абодва лётальнікі ўратаваліся.

**Падпішчыкам у Лідзе й Лідзкай вол.** „Народ“ пасылаецца на Беларускаю Кнігарню ў Лідзе, Замковая вул. 8, тамжа можна купляць асобныя экзэмпляры „Народу“ і плаціць падпіску.







Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „РАХ“, Сьвята-Ігнатаўская вул. № 5. Рэдактар Б. Станкевіч.